Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 22. Вільня, Нядзеля 25 Ліпня 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.

Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.

Перамена адрэсу 30 гр.

Цана абвестак:
на 1 староне 30 грошаў, на 2 і 3 — 25 грошаў і на 4 — 20 грошаў за радок дробнага друку ў вадным папосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## САМІ САБЕ.

Зрабіўшы кароткі агляд беларускай працы ў Беларусі пад Польшчай за апошнія 6—7 гадоў, можам устанавіць з аднаго боку карысныя, з другога непажаданыя рэзультаты. Да першых безумоўна можам залічыць нацыянальнае ўсьведамленьне беларускіх мас. Праца беларускіх паслоў і беларускіх палітычных партыяў у Сойме і на вёсцы пайшла амаль выключна па лініі працы палітычнага характару.

Рэзультаты гэтай працы даказалі, што беларусы пад Польшчай прадстаўляюць даволі вялікую сілу, з якой трэба лічыцца. Тое палітычнае ўсьведамленьне, якое відзім цяпер на вёсцы ня ёсьць толькі пладом аднэй працы беларускіх партыяў, але ў вялікай меры, таксама пладом польскай палітыкі адносна беларусаў, як у галіне гаспадарчай, так культурна-прасьветнай, сацыяльнай і іншай. Палітыка клясавага, нацыянальнага і рэлігійнага ўціску якраз памагла беларускім дзеячам пажаць добры ўраджай у справе нацыянальнага ўсьведамленьня беларускага сялянства і наагул беларускіх мас.

Затое рэзультаты беларускай працы ў галіне гаспадарчай і культурнай вельмі непажаданыя. Наагул беларусы, якія ня маюць сваіх капіталістаў і сваей буржуазіі (што часткава можа і пажадана) дагэтуль гаспадарча вельмі слаба стаялі. Апрача зямлі, на якой працуе селянін (праўда, гэтай зямлі яму не хапае, адчувае ён зямельны голад) іншых беларускіх варштатаў працы бадай ня было сусім. У часе сусьветнай вайны дзякуючы розным забаронам вольнай прадажы пачалі на нашых землях паўставаць спажывецкія коопэратывы. Коопэратывы гэтыя, можна сказаць, былі першай эканамічнай пляцоўкай беларускай. Аднак лёс гэтых гаспадарчых інстытуцыяў быў сусім незавідны. Палітыка ўлады якраз дакапала сваей мэты, не даючы магчымасьці разьвівацца цэнтральнай беларускай арганізацыі коопэратываў; наступіла ліквідацыя яе і перадача ў польскія рукі. Аб іншых эканамічных беларускіх установах няма чаго і ўспамінаць, бо іх намералі раней, чым патрапілі прыйсьці на сьвет.

Пераходзячы да рэзультатаў у галіне культурнага жыцьця, на жаль трэба падчыркнуць, што і тут маем вельмі мала пацехі. Справа школьная ўсім добра вядома і аб ёй на'т ня трэба распісывацца. Справа беларускага выдавецтва, ёсьць галінай, у якой найбольш самі маглі-б выказаць сваю сілу і сваю культуру. Аднак беларускае выдавецтва стаіць амаль што не на пункце замярзаньня. Калі ў год выдана некалькі кніжак, дык гэта зьяўляецца нічым для беларускага грамадзянства і беларускіх культурна-грамадзкіх патрэбаў.

Перад вайной, калі сьведамасьць беларускіх мас яшчэ спала цяжкім сном, так-жа выдаваліся гэтыя некалькі кніжак у год. Як тады, так і цяпер беларусы не атрымлівалі ад ураду дапамогі на выдавецтва; грошы ішлі толькі ад грамадзядзянства. Дык можа быць сусім ясным, што прычына заняпаду культурнай працы не цалком ляжыць па старане палітычных умоў, а па старане нас самых, па старане беларускіх дзеячоў, якія ўжо забыліся цяжка і сыстэматычна працаваць. Трэба з прыкрасьцю сьцьвердзіць, што займаючыся палітыкай, за мала зьвярталі ўвагі на гаспадарчае і культурна-прасьветнае жыцьцё, тым больш гэта непажадана, бо якраз ад гэтых галін грамадзкага жыцьця залежыць палітычныя ўмовы. Ня гледзячы на ўсялякія перашкоды, беларусам трэба ўзяцца за арганізаваную працу на гаспадарчым і культурна-прасьветным грунце. Трэба памалу самым станавіцца на ногі, не аглядацца на чужую ласку, трэба шукаць працы для беларускай безработнай інтэлігенцыі, трэба ствараць абставіны, пры якіх селянін мог-бы атрымаць найбольшы даход з сваей працы, а разам з узростам даходу селяніна і разам з працай беларускіх інтэлігентаў будуць тварыцца лепшыя ўмовы да самастойнага культурнага беларускага жыцьця, будзем самі сабе памагаць.

*Адам Більдзюкевіч.*

## Ці патрэбна нам свая сялянская арганізацыя?

Вось пытаньне, на каторае здавалася-б павінен быць просты адказ: але, патрэбна. Але на жаль ня ўсе гэтак думаюць.

Ёсьць яшчэ шмат людзёў, каторыя сьвядома, ці несьвядома крычаць, што беларускаму мужыку арганізацыя непатрэбна, што дзеля гэтага ёсьць работніцкія партыі, каторыя бароняць інтэрэсы сялян і, нарэшце, што беларускі селянін да арганізацыі яшчэ ня вырас. На жаль гэтыя паасобныя выкрыкі падтрымліваюць навет і цэлыя партыі, довадам чаго можа служыць хоць-бы тое, што калі нарадзіўся Беларускі Сялянскі Саюз, то некатарыя партыі, як беларускія так і польскія паднялі крык, што гэта здрада работнікаў, пагвалчэньне адзінага працоўнага фронту. Пакідаючы ўсё гэта на баку, разгледзім, што так спалохала працоўнікаў сялянская руху. Паставім сабе пытаньне: каму абыходзіць арганізацыя Беларускага Сялянскага Саюзу? Ясна, што для селяніна і для работніка яна ня шкодна, бо як работніку, так і селяніну трэба мець свае самастойныя клясовыя арганізацыі. Арганізацыя беларускага сялянства можа быць грознай толькі для абшарніка, спэкулянта, і людзёў жывучых на нашай сьпіне. Арганізацыя беларускага сялянства зьяўляецца небясьпечнай, для польскіх і расейскіх партыяў, усіх кірункаў, бо падыймае нацыянальную і клясовую сьвядомасьць сярод сялянства. Арганізацыя сялянства не падабаецца і некатарым беларускім партыям. Прычына—партыйная завісьць.

Такім спосабам мы бачым, што амаль ня ўсе працаўнікі беларускага сялянскага руху ёсьць арганізаванымі ў свае партыі і толькі страх згубіць свае двары, пазбавіцца лёгкага хлеба, страх згубіць свае нацыяналістычныя ўплывы сярод шматміліённага беларускага сялянства, дробныя партыйныя інтрыгі—прымушаюць іх крычэць і працівіцца ўсімі спосабамі ідэі арганізацыі беларускага сялянства. Бяручы гэта пад увагу, мы павінны яшчэ з большаю адвагаю і энэргіей узяцца за будаваньне свайго жыцьця на падвалінах сялянскай арганізацыі.

Пастараемся-ж яшчэ раз выясьніць усю карысьць арганізаванага жыцьця.

Дык вось, сялянская арганізацыя, ці то будзе, Грамада, ці Гуртож, назваьне ня важна, перадусім згуртуе нас, зьвяжа ўзаемнаю сьвядомаю дысцыпліною, прывучыць да саліднасьці, парадку, вытрываласьці і адвагі да раз намечанага дзела. Арганізацыя будзе будзіць у нас нацыянальную, сацыяльную сьведамасьць.

Арганізацыя дасьць нам магчымасьць мець уплывы на ход дзяржаўнага жыцьця, бо згрупаваныя ў партыю, будзем прадстаўляць вялізарную сілу, з катораю нашым працаўнікам прыдзецца лічыцца заўсёды. Арганізаваную сілаю мы лягчэй даб'емся сваіх законных правоў на зямлю, барджэй даб'емся роднай школы, нацыяналізацыі царквы і касьцёла, забясьпечым сабе ад гвалту адміністрацыі. Арганізацыя праз адзін із сваіх відаў—коопэрацыю паможа нам і эканамічна. Праз коопэрацыю рознага роду вылезем з рук прыватнага купца-спэкулянта; падымем наш дабрабыт, а гэтым дастанем магчымасьць зьмяніць варункі вёсковага жыцьця. Седзячы на вёсцы, можна, шляхам арганізацыі, супакоіць свой духоўны голад: чытальней, бібліатэчкаю, ладжаньнем вечароў-спэктакляў, канцэртаў, курсаў, народных дамоў, унівэрсытэтаў і г. д. Арганізацыя прыдасьць вёскавай думцы болей вагі і сілы чым цяпер, болей будзе свабоды для асабістай дзейнасьці. Найгалаўнейшае, што даець нам арганізацыя, то гэта правы чалавека, так у сучасны мамэнт пагвалчаныя. Ня трэба думаць, браткі сяляне, што ўсё гэта мы дастанем адразу, як толькі запішамся ў сябры Саюзу, не, усё гэта прыдзецца заваёвываць доўгай, упорнай барацьбою. Такім парадкам на пастаўленьне пытаньне: ці патрэбна нам наша сялянская арганізацыя, адказам сьмела, што патрэбна. Першую спробу у гэтым кірунку:—Бел. Сялянскі Саюз мусім шчыра прывітаць і хто ведае, калі-б гэтая арганізацыя паўстала раней, то можа быць нам і не прыйшлося-б пераносіць ўсю цяжыню пасьляваеннага часу, увесь самадум адміністрацыі, усю нацыянальную і сацыяльную несправядлівасьць.

*Кастусь бяз долі.*

# З арганізацыйнага жыцьця Беларускага Сялянскага Саюзу.

Беларускі Сялянскі Саюз зьяўляецца палітычнай партыяй, якая стаіць на грунце сялянскіх інтэрэсаў і якой праграма ўжо была друкавана ў «Сялянскай Ніве». (Друкаваную праграму можна дастаць у Саюзе — Вільня, Полацкая 4—7).

Выканаўчымі органамі Саюзу апрача цэнтральнага камітэту ёсьць акружныя і сельскія камітэты.

Згодна з § 14 статуту Саюзу, калі ў якім мейсцы знойдзецца ня меней як 3 асобы, якія прызнаюць праграму Беларускага Сялянскага Саюзу, то тыя асобы твораць гурток Сялянскага Саюзу.

Аб утварэньні такога гуртка ініцыатары павінны паведаміць Цэнтральны Камітэт Беларускага Сялянскага Саюзу. Паведамленьне такое можа быць напісана ў такой форме:

У Цэнтральны Камітэт
Беларускага Сялянскага Саюзу
ў Вільні, Полацкая 4—7.

Пазнаёміўшыся добра з Праграмай і Статутам Беларускага Сялянскага Саюзу, і жадаючы працаваць на карысьць Бацькаўшчыны пад сьцягам Сялянскага Саюзу, ніжэй падпісаныя залажылі гурток (сельскі камітэт) Беларускага Сялянскага Саюзу ў вёсцы . . . . , вол. . . . . . . павету.

У часовы камітэт гуртка ўваходзяць:
старшыня гр. . . . .
скарбнік гр. . . . .
сэкрэтар гр. . . . .

Камітэт месьціцца ў доме . . . . (падаць прозьвішча і імя гаспадара хаты).

У сувязі з вышэйпаданым просім зацьвердзіць тымчасовы склад камітэту гуртка ў вашай вёсцы.

(Подпісы 3-х асоб вышэйпаданых сяброў камітэту)

Дня . . . . 1926 г.
вёска . . . . . .
пошта . . . . . .

Ува ўсіх справах датычачых арганізацыі

**Беларускага Сялянскага Саюзу**

і запісі ў сябры просім зьвяртацца па адрэсу:

**m. Wilno, ul. Połocka 4 m. 7.**
**Беларускі Сялянскі Саюз.**

# З жыцьця Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

## 1. Аб арганізацыі Інстытуту.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зьяўляецца таварыствам, якое не займаецца палітыкай, а толькі гаспадарчымі і культурна-асьветнымі справамі.

За час свайго даволі кароткага існаваньня Інстытут ужо адкрыў аддзел у Вільні і прыступіў да арганізацыі аддзелаў у Наваградку, Радашкавічах, Баранавічах і Горадні. Гурткі Інстытуту адкрыты ў паветах: Браслаўскім, Бельскім, Баранавіцкім, Наваградзкім, Несьвіскім і Слонімскім.

Вельмі пажадана каб у кожнай вёсцы заложыўся гурток. Статут Інстытуту можна дастаць у Віленскім Аддзеле Інстытуту (m. Wilno, Zawalna 7) прысылаючы паштовых значкоў на 16 грошы. Інструкцыя, як адкрываць гурткі Інстытуту была надрукавана ў № 19 і 20 «Сялянскай Нівы».

## 2. Да ведама гурткоў Інстытуту.

I.

Прыпамінаем гурткам Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, што § 5 b) статуту кажа: «Т-ва інфармуе адпаведныя ўлады аб гаспадарчым стане, патрэбах эканамічных і культурных сяброў, а так-жа бараніць іх інтэрэсы натуры матэр'яльнай і культуральнай; арганізуе праўную помач сябром і дае праўныя парады, як просьбы і паданьні да ўладаў і прыватных інстытуцыяў».

Апіраючыся на гэтым параграфе Інстытут мае права выступаць перад Земскімі Урадамі, Міністэрствам Зямельных Рэформаў і Зямельным Банкам у справе парцэляцыі зямлі, у справах зацьверджаньня тых ці іншых кандыдатаў на парцэлі і ў справах ліквідацыі сэрвітутаў, лучэньня грунтаў, пазыкаў і іншых. У гэтакіх справах гурткі павінны зварочвацца ў аддзел або ў цэнтралю.

Што да заяваў ад імя сялянаў да ўладаў, дык такія заявы могуць пісаць гурткі.

II.

Згодна з § 61 статуту ўсе сябры Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры маюць права насіць значок Інстытуту, які складаецца з коласа і дубовай галінкі. Даволі прыгожай формы значкі ўжо зробленыя і гурткі могуць даставаць іх. Сябра плаце гуртку за значок 1 зл. 50 гр., з якіх грошы гурток павінен заплаціць у Аддзел або ў Цэнтралю 1 зл. 20 гр.

Заказы на значкі гурткі могуць прысылаць у Віленскі Аддзел Інстытуту.

Пячаткі для гурткоў каштуюць па 6 зл. з перасылкай. Грошы на пячаткі трэба пасылаць у Віленскі Аддзел.

**БЕЛАРУСЫ, адкрывайце свае прыватныя беларускія школы!**

Каб скарэй дабіцца ўрадовай беларускай школы, кожная вёска павінна пакуль што адкрыць прыватную беларускую школу, калі блізка ёсьць беларускі вучыцель. Усе клапоты ў атрыманьні дазволу на школу бярэ на сябе Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Вы толькі павінны неадкладна прыслаць у Інстытут (Wilno, ul. Zawalna 7) такія даныя:

1) У чыей хаце мае быць школа, яе размеры і сколькі мае вакон?
2) Сьпісак дзяцей.
3) Кандыдата на вучыцеля, яго дакумэнты аб кваліфікацыі і жыцьрыс напісаны вучыцелям па беларуску і папольску.
4) Адрес вучыцеля і складаючага заяву селяніна.

*Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.*

## Да беларускага настаўніцтва.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, згодна з адной з сваіх мэтаў—пашырэньня асьветы, прыступае да шырокай акцыі школьнай, якая імкнецца да закладаньня пачатковых беларускіх школ, вучыцельскіх курсаў, гімназіяў і іншых.

У зьвязку з гэтым Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зьвяртаецца да ўсіх настаўнікаў-беларусаў з просьбай прыняць удзел у гэтай працы пашырэньня беларускай асьветы і гэтым будаваць фундамант для лепшага жыцьця беларускага народу.

З гэтай мэтай Інстытут просіць усіх настаўнікаў беларусаў (бязработных і маючых працу ў той ці іншай школе) зарэгістравацца ў Віленскім Аддзеле Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры (Завальная 7), прысылаючы пасьля запаўненьня такія анкеты:

1. Прозьвішча, імя і век
2. Адрэс.
3. Якая асьвета (настаўніцкая і агульная)?
4. Як прыгатаваны з беларусазнаўства?
5. Ці знае польскую мову?
6. Ці мае пасьведчаньне польскага грамадзянства, або польскі пашпарт?
7. Ці працуе ў школе, а калі не, то ці хоча працаваць у беларускай школе прыватнай, або публічнай?
8. У якой вёсцы або мястэчку хацеў-бы быць вучыцялем у беларускай школе?
9. Ці ў той вёсцы ёсьць польская школа, ці не?
10. Ці жыхары той вёскі падалі дэклярацыі школьныя на беларускую школу?
11. Ці вёска мае адпаведны будынак пад школу і хто зьяўляецца ўласьнікам яго.

*Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.*

# Дамаганьні паслоў Бел. Пасольск. Клюбу.

**(У справе беларускай школы).**

15-га ліпня Беларускі Пасольскі Клюб выслаў Міністру Асьветы заяву наступнага зьместу:

«Цяжкае палажэньне беларускай школы ў Польшчы прымушае беларускіх паслоў ня раз выступаць у Сойме і перад урадам з адпаведнымі прапазыцыямі і дамаганьнямі. Аднак да гэтага часу ўсе нашы заявы ня былі трактаваны прыхільна і на далей адносна нас вяліся палітыка зьнішчэньня.

Сяньня мы прымушаны зьвярнуцца да цяперашняга ўраду з надзеяй, што гэты ўрад зразумее нашы беларускія культурна-прасьветныя патрэбы і споўніць нашы ніжэй паданыя дамаганьні:

1) Адчыненьне або ператварэньне з пачаткам школьнага году 412 беларускіх пачатковых школаў, на якія пададзены дэклярацыі.

2) Безадкладнае адчыненьне дапаўняючых 3-хмесячных курсаў для беларускіх вучыцялёў на 400 душ.

3) Дапамога для 4-х існуючых беларускіх гімназіяў (у Вільні, Наваградку, Радашковічах і Клецку), прызнаньне праў матуры (публічнасьці) кончыўшым беларускія гімназіі.

4) Адчыненьне 2-х вучыцельскіх беларускіх сэмінарыяў.

5) Скасаваньне двумоўных школаў (утраквістычных) і скасаваньне загаду Міністра Асьветы ў справе мовы навучаньня географіі і агульнай гісторыі.

6) Скасаваньне загаду з дня 7.I. 1925 г. да школьнай уставы з дня 31.VII. 1924 г.

7) На кожнае дамаганьне бацькоў дзяцей у школьным веку, адчыненьне беларускіх пачатковых школаў.

8) Недапушчаньне ніякіх перашкодаў на адчыненьне праз беларус. культурна-асьветныя Т-вы прыватных беларускіх школаў пачатковых, ніжшых, сярэдніх, а так-жа курсаў.

9) Увядзеньне беларускай мовы як выкладовай у Праваслаўнай Сэмінарыі ў Вільні і каталіцкіх сэмінарыях у Вільні і ў Пінску.

10) Адчыненьне Беларускага Вучыцельскага Інстытуту для вучыцялёў сярэдніх беларускіх школаў і Беларускага Гуманістычнага Аддзелу ў Віленскім Унівэрсытэце.

11) Утварэньне спэцыяльнай адміністрацыі для беларускага школьніцтва.

12) Даваньне дапамог на беларускае выдавецтва.

13) Да часу ўвядзеньня ў дзяржаўным бюджэце адпаведных пазыцыяў зьвязаных з паданымі дамаганьнямі, безадкладнае асыгнаваньне наступных сум:

Да пункту 2, на вучыцельскія курсы 240.000 зл. Да пункту 3, на гадавыя дапамогі гімназіям 216.000 зл. Да пункту 4, на вучыцельскія сэмінарыі 192.000 зл. Да пункту 12, на выдавецтва 400.000 зл.

У сувязі з вышэйшым маем надзею, што Пан Міністар з належным зразуменьнем разгледзіць мінімальныя дамаганьні беларусаў у галіне культурна-асьветнай і ў як найбліжэйшым часе будуць яны аканчальна прыхільна выпаўнены».

**Сяляне! Чытайце сваю газэту „Сялянскую Ніву“.**

